Год IV. Люты. № 2 (37)

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1932 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 2.



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA
Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| B, b — Б, б. | K, k — К, к | Š, š — Ш, ш |
| C, c — Ц, ц. | L, l — ЛЬ, ль. | T, t — Т, т. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ł, ł — Л, л. | U, u — У у. |
| Č, č — Ч, ч. | M, m — М, м. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| D, d, — Д, д. | N, n — Н, н. | V, v — В, в. |
| E, e — Э, э. | Ń, ń — НЬ, нь. | Y, y — Ы, ы. |
| F, f — Ф, ф. | O, o — О, о. | Z, z — З, з. |
| G, g — Ґ, ґ. | P, p — П, п. | Ž, ž — Ж, ж. |
| H, h — Г, г. | R, r — Р, р. | Ź ź — ЗЬ, зь. |
| I, i — I, i. | S, s — С, с | |

„Шлях Моладзі"
МЕСЯЧНАЯ ЧАСОІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.
Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр
" на паўгода . . . . . 1 зл.
" на год . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno Zawalna 6 — 10).
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год IV. | Вільня, Люты 1932 г. | № 2 (37) |
| --- | --- | --- |

## Будучыня.

Будучыня кожнага народу залежыць ад ягонага маладога пакаленьня.

Моладзь — здаровая маральна, крэпкая фізычна, сьведамая сваіх абавязкаў і заданьняў, вясьціць добрую і сьветлую будучыню народу. Калі-ж вышэй сказаных духовых багацьцяў у моладзі няма, дык данаму народу пагражае паважная небясьпека, а то і катастрофа. Дык і ня дзіва, што за „маладыя душы,“ за ўплывы на школу і выхаваньне моладзі вядзецца такая заядлая барацьба. Гэтая барацьба за „маладыя беларускія душы“ ўжо не ад сяньня вядзецца.

Жыцьцё паказала, з якой энэргіяй старэйшае беларускае пакаленьне змагалася за родную школу. Аб гэтым сьведчаць тысячы дэклярацый, падаваныя польскім школьным уладам аб адчыненьні для беларускай дзетвары роднай школы, каб такім чынам абараніць беларускую „маладую душу“ ад загубы і забясьпечыць на яе свой беларускі ўплыў. Але гэтае змаганьне нашых бацькоў аказалася непасільным. — Мы Беларусы, тут пад Польшчай, роднай школы не здабылі і наша дзетвара вучыцца ў школе польскай, дзе пануюць польскі дух і польскія ўплывы.

Побач з польскай школай у нашым краю, мы спатыкаем па нашых сёлах і польскія т-вы для беларускай моладзі ўжо дарослай: — „Stow. Młodzieży Polskiej,“ „Koło Młodzieży Wiejskiej,“ „Strzelec“ і інш., заснаваныя таксама дзеля ўплываў польскага духу на нашу моладзь. А поруч з гэтымі інстытуцыямі для беларускай „маладой душы,“ мы маем і беларускія ўстановы — гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, заснаваныя дзеля абароны беларускай „маладой душы“ ад чужацкіх уплываў і ўзгадаваньня ды падмацаваньня яе беларускай навукай і беларускай культурай.

Апрача гэтых пляцовак барацьбы за беларускую душу, мы зьяўляемся сьведкамі змаганьня за яе і на ніве рэлігійнай. Там мы бачым так-жа энэргічную барацьбу нашага народу: у царкве з маскоўшчынай, а ў касьцеле — з польшчынай.

З вышэйсказанага ясна, як шырока і заўзята вядзецца барацьба за беларускую душу і то за „душу маладую“ або йнакш кажучы — за беларускую будучыю. Бачым так-жа, што ў школе, дзе вучыцца беларуская дзетвара, пануе ўсеўладна дух польскі, у царкве дух маскоўскі, а ў касьцеле ўзноў польскі.

Астаецца вольнай арэнай барацьбы за беларускую „маладую душу“ толькі моладзь дарослая.— З вышэй сказанага ясна, як шырока і заўзята вядзецца барацьба за маладую беларускую душу: апанавана ўжо амаль жыцьцё школьнае і пазашкольнае (розныя т-вы, „стшэльцы“ і г. д.), апанавана царква, апанаваны касьцёл. Астаецца вольнай арэнай барацьбы за беларускую „маладую душу“, толькі прыватны круг моладзі дарослай — сям'я.

Мы бачым аднак, што вораг пачынае абстрэліваць і гэту апошнюю нашу, моцную і нічым дагэтуль незатручаную цьвярдыню (крэпасьць), беларускую сям'ю, стараючыся яе разбурыць і такім чынам вырваць беларускую народную душу з карэньнямі.

Вось-жа бяручы ўсё гэта пад развагу, мы, дарослая беларуская моладзь, мусім зьвярнуць увагу прадусім самі на сябе і прасьледзіць свае паступкі, ці і мы часамі нясьведама, ў той ці іншы спосаб, не памагаем нашаму ворагу разбураць наймацнейшай нашай народнай апоры — нашай моцна збудаванай цьвярдыні, здаровай дагэтуль беларускай сям'і?

Мы мусімо ўсьведаміць сябе, што мы зьяўляемся адказнымі за будучыню нашага народу і што на нас ляжаць вялікія абавязкі і адказнасьць прад народам і гісторыяй.

Дзеля гэтага, мы павінны на роўні з жыцьцём сьцерагчы нашай народнай апоры — сям'і і з гэтай беларускай цьвярдыні змагацца з чужацкімі ўплывамі, узбагачываючыся ведай, сваей народна-беларускай культурай, мацуючы сваю беларускую „маладую душу“ ў беларускіх культурна-прасьветных арганізацыях, падгатаўляцца да здабыцьця роднай школы для беларускай дзетвары і адваяваньня самастойнага жыцьця рэлігійнага.

Гэта ёсьць нашым заданьнем, бо гэтага вымагае ад нас будучыня!

**Я. П-чок.**



# Крыху з нашай гісторыі.

**Беларуска-Літоўская Дзяржава і Германскія ордэны.**

Найбольш небясьпечным вонкавым ворагам Беларуска-Літоўскай Дзяржавы былі Германскія ордэны (законы). Кліч германскіх плямёнаў: „Drang nach Osten," г. зн. імкненьне — паход на Усход пачынаецца зьдзейсьнівацца ўжо нават у IX, а асабліва ў X ст. Гэны рух на Усход перадусім прыціснуў заходніх і балтыцкіх Славянаў, як сумежных з германскімі плямёнамі. Славяне, тэрыторыі якіх даходзілі спачатку аж да Рэйну, з часам былі змушаны адсунуцца аж за Эльбу. А на берагох Балтыцкага мора яшчэ мацнейшы быў націск германскіх плямёнаў: яны ацэнівалі вялікую вартасьць марскіх берагоў.

На сваім шляху Немцы спатыкалі Палякоў і Літоўцаў, якія, дзеля абароны сваіх граніц, пачалі таксама арганізавацца. Такім чынам збудавалася дзяржава, якой прышлося стрымліваць германскі націск.

Барацьба з неўгамонным ворагам цягнулася цэлыя стагодзьдзі.

Нават за часоў пававаньня Міндоўга прышлося Літве бараніцца ад германскага народу і ён — Міндоўг вельмі ўмела змагаўся: дзе сілаю, дзе хітрасьцю. Тое самае рабіў і слаўны ў гісторыі Гедымін, які аднойчы зьвярнуўся і да рымскага Папы з просьбаю аб заступніцтва ад Крыжакоў. Рэч зразумелая, што Папа папрабаваў выкарыстаць такую аказію і запрапанаваў Гедыміну, разам з народам Літоўскім прыняць хрысьціянства. Але Гедымін так лёгка не згадзіўся на прапазыцыю Папы, бо прадбачыў, што каталіцтва не ўратуе Літвы і Беларусі ад крыжацкіх нападаў і прапазыцыю адкінуў. Нямаючы ні скуль помачы, мусіў Гедымін сваімі ўласнымі сіламі адпіхаць чужацкую навалу. Міма пераважаючай і добра ўзброенай крыжацкай арміі, Гедыміну часам удавалася мець перамогу ў бітвах.

Аднак-жа ў барацьбе з Крыжакамі загінуў і сам Гедымін: як кажа летапіс, загінуў ён пры аблозе аднае германскае крэпасьці, паранены Крыжакамі.

Пры валаданьні Альгерда і Кейстута, амаль што ўвесь цяжар барацьбы з Крыжакамі ляжаў на Кейстуце, які быў важакай пэўнай часткі войск Беларуска-Літоўскае Дзяржавы.

Трэба зазначыць, што Германцы вялікіх паходаў не рабілі, але затое часта, і гэтыя паходы ў гісторыі называюцца рэйзамі. Гэтакіх рэйзаў Б.-Л. Дзяржава мусіла кожны дзень, кожную гадзіну спадзявацца; якіх 100—200 Крыжакоў часта ўрываліся на тэрыторыю Б.-Л. Дзяржавы, палілі вёскі, гарады, білі жыхароў або забіралі ў палон, або разам з людзьмі забіралі іхную маемасьць і ўцякалі ў свае межы.

Каб забясьпечыцца ад ворага, жыхары нападаных тэрыторыяў пачынаюць умацовывацца: будуюць моцныя абаронныя замкі, гарадзішчы і арганізуюць збройную армію. Наймацнейшы ў той час быў замак збудаваны у Коўні, да якога шмат разоў падступалі Крыжакі, але ўзяць не маглі: ён стаяў нярухомы, баронячы далейшых тэрыторыяў Літвы і Беларусі. Толькі праз нейкі час, сабраўшы ўсе свае сілы і запрасіўшы чужаземных рыцараў, Крыжакі змаглі ўрэшце гэты грозны замак забраць і дашчэнту зруйнаваць. Але праз пару гадоў, Літоўцы зноў недалёка ад руін старога замку выбудавалі новы, ня менш моцны.

Былі выпадкі, калі Беларуска-літоўскія князі паспрачаліся між сабой, то той ці іншы з князёў запрашалі ў помач сабе Крыжакоў. Для Крыжакоў, рэч зразумелая, было на руку, калі былі ўнутраныя спрэчкі ў так ненавіснай для іх дзяржаве і такім чынам яны ахвотна умешваліся ў унутраныя справы гэтай дзяржавы. Так напр. Ягайла і Кейстут, спрачаючыся між сабой, зьвярталіся да Крыжакоў па помач.

Але спрэчкі спыняліся з часам, а Беларусь з Літвою зноў хапалі за зброю і змагаліся з адвечным ворагам.

Прышоў аднак час, калі Крыжакі сталіся больш грознымі для Польшчы і Беларуска-Літоўскай Дзяржавы, тады гэтыя дзяржавы, пры Ягайле, дзеля супольнай абароны, злучыліся у 1386 г. Аднак гэтае злучэньне ня было страшнае спачатку для Крыжакоў, але пазьней — так.

У 1410 г. Вітаўт, разам з Ягайлай, мелі рашучую перамогу над Крыжакамі ў Прусіі, пад Грунвальдам. Войска Крыжакоў складалася з 80 тыс., а войска саюзьнікаў з 150 тыс.; тут, як бачым, нават лічбовая сіла была ў вялікай пераваЗе. У гэтай барацьбе браў удзел і чэскі гусыцкі дзеяч Жыжка.

Прабег бітвы быў наступны: войскі непрыяцельскія сустрэліся зраньня 15 чэрвеня. Доўга ня можна было з'арыентавацца, на чыім баку будзе перавага; і толькі пад вечар, дзякуючы падмозе беларускіх смаленскіх палкоў выясьнілася, што абсалютная перамога ёсьць на баку Беларуска-Літоўскіх войск. Страты Крыжакоў былі вагромныя: быў забіты важака іхнага ордэну і 30 тыс. рыцараў.

Гэта, можна сказаць, была апошняя і рашучая перамога над Крыжакамі; з гэтай пары пачынаецца як-бы новая эпоха ў жыцьці Б.-Л. Дзяржавы. бо сілы Германцаў слабеюць. І такім чынам дайшло да таго, што ў 1466 г. Тэўтонскі ордэн канчае сваё незалежнае існаваньне. А вялікі містар ордэну павінен быў прызнаць сябе васалам польскага караля і Беларуска-Літоўскага гаспадара — Казімера IV.

І, як бачым, грозны Крыжак быў змушаны ганебна апусьціць свой крывавы меч і схаваць яго ў похву на заўсёды.

**М. Пацюкевіч.**

# Падход польскіх арганізацыяў да беларускай моладзі.

*(в. Іванавічы, Барaнавіцкага пав.)*

У нашай вёсцы, жыхары якой усе ёсьць Беларусамі, заложана польскае „Koło Młodzieży Wiejskiej", каторае ў галоўнай сваей мэце ёсьць падобнае да гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, г. зн. мае за мэту гаспадарчае і культурнае разьвіцьцё вясковай моладзі. Але больш усьведамлёныя нашыя Беларусы глядзяць на гэтую арганізацыю крыва, бо:

1) ўважаюць, што нашая моладзь, належачы да польскай арганізацыі, тым самым яе падтрымлівае і паказвае, што горнецца да арганізацыяў, маючых характар выключна грамадзкі і польскі, а не нацыянальны беларускі і тым самым ня можа разьвіць сваіх нацыянальных элемэнтаў.

2) Прыступленьне Беларусаў да небеларускай арганізацыі ёсьць пацешаючым зьявішчам для ўсіх няпрыхільных да беларускай культуры, бо-ж ёсьць беларуская нацыянальная арганізацыя — БІГіК, да каторай, праз залажэньне гуртка, маглі-б належаць нашы вяскоўцы і тым самым умацаваць яе і як-бы задэманстраваць перад усімі няпрыхільнымі, што беларуская культура жыве.

3) Беларуская моладзь з другіх вёсак крыва глядзіць на гэтую арганізацыю „Koło Młodzieży Polskiej" і стараецца яе байкатаваць, дзеля гэтага паўстае антаганізм сярод нашага сялянства, што ёсьць вельмі непажаданым.

Трэба зазначыць, што ваяводзкі ўрад „Związku Młodzieży Wiejskiej" ідзе нашай моладзі на руку: пазваляе закладаць беларускія бібліятэкі, ладзіць беларускія спэктаклі і канцэрты і вясьці ў беларускай мове канцэлярыю і карэспандэнцыю з ваяводзкім урадам „Związku". Гэтым нашую моладзь, каторая ў душы ёсьць шчыра беларуская, прыламшчылі і выглядае, што далі ёй пэўны ідэалік, які астаецца толькі рэалізаваць. Гэтакай формы культурна-нацыянальнага разьвіцьця мы павінны сьцерагчыся, бо здэмаралізуемся і зыйдзем з сапраўднага шляху да разьвіцьця нашай беларускай культуры.

Значыць, найлепшым выхадам для нас будзе залажыць гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і працаваць там над разьвіцьцём сваей роднай беларускай культуры і аб'еднывацца каля свайго, а ня чужога цэнтру.

**М.**

# З падарожы па Палесьсі.

**Мястэчка К., лясная калейка, вёска С.**

Прыемна было піць сьвежае малако ў таварystве трох старэйшых, вельмі сымпатычных, шчырых, дабрадушных Паляшукоў, але трэба было ехаць далей ад гэтага мястэчка ў глуш палескіх балотаў — у вёску С., дзе быў вызначаны пункт маей этнографічнай працы.

Пасьля добрага сьнеданьня і падарожы, хацелася мне пагаспадарску легчы і адпачыць з гадзінку, але немагчыма было гэтага зрабіць, бо Паляшукі сказалі мне, што за паўгадзіны адходзіць цягнік па лясной калейцы да в. В., г. зн. ў той бок, куды мне трэба ехаць. А таксама гэтыя-ж Паляшукі абяцалі завясьці мяне да той „калейкі," бо ня знаючы дзе яна стаіць—трудна было знайсьці.

У кавэрні Паляшукі расказывалі мне аб сваім цяжкім жыцьці, наракалі на сучасны дзяржаўны лад, на мясцовую адміністрацыю, на духавенства і г. д. Адзін разжаліўшыся зьвярнуўся да мяне славамі: „Панэ, заступіцеся за нас, вы-ж пэўна можаце гэта зрабіць. Вы-ж пэўна пасол, ня хто іншы? Бо на нас всі забулы і Бог і людэ. Мы бачымо в Вас свайго чоловіка, бо Вы з намі не саромітэся гаварыць, мы-ж такіе ўбогіе, тэмные людэ, дыкіе як і нашы балота." — Гэты Паляшук так мяне расчуліў, што здаецца ўсё-б ім аддаў, каб толькі яны так не гаравалі. Але, нажаль, пацешыць іх мог толькі цёплым сардэчным словам, ну і купіў ім яшчэ па пачцы махоркі, за што яны лезьлі цалаваць мае рукі.

Ідучы да „калейкі" прышлося нам праходзіць праз усё мястэчка. У мястэчку сустракаў я худых, абдзёртых і часта крывых (кульгавых) Паляшукоў, што прыходзілі сюды, каб зрабіць якую работу Жыдом, а за гэта дастаць кавалак хлеба. Хадзілі яны так бязмэтна па мястэчку і як галодныя ваўкі зімой, заглядалі ў кожны панадворак, ці не пакліча яго хто зрабіць нейкую работу.

— Сапрон! Загані маю карову ў балота, дастанеш кавалак хлеба, — сказала так таўстая заспаная жыдоўка да прахадзячага вельмі старога Паляшука. Рэч зразумелая, што ахвотна гэты Паляшук пагнаў карову, бо гэта ягоны заработак, бо толькі такім чынам ён зможа час ад часу пакаштаваць хлеба; кажу хлеба, бо Паляшук яго бадай ніколі ня есьць, бо ня мае. (Жыта-ж у балоце не расьце).

Пры выхадзе з мястэчка спаткалі мы дзьве фурманкі; пасярод дарогі стаялі запрэжаныя ў ёрма валы і каля вазоў стаяла некалькі Паляшукоў і нешта гутарылі між сабою. Для мяне гэтыя валы былі сэнсацыяй, аб якіх я чуў толькі з апавяданьня майго дзеда, бо ён калісь араў і езьдзіў ва-

ламі, Тут я апынуўся аж у эпосе прадзедаў. Падышоўшы да гэтых Паляшукоў, спытаў я іх, ці дазволяць сфатаграфаваць гэты цікавы для мяне вобраз. З вялікім зьдзіўленьнем узіраліся на мяне, не даючы выразнага адказу. Але зараз адзін з маіх „кумпанаў" зьвярнуўся да іх: „Та чаго-ж вы боітэся, нычога паганага нэ будэ; сій пан есьць наш чаловік; вон хочэ зробыць карточку і паказаць у городзі, як Полешукі живуць." Гэта іх пераканала, што я не чараўнік і што нічога не хачу благога зрабіць. Пакуль рабіў я зьнімкі, абступілі мяне ня толькі Паляшукі, але і Жыдоў назыходзілася хіба поўмястэчка.

Рэч зразумелая, што не магло абыйсьціся і без „opatrzności:" зараз зьявіўся паліцыянт, з падпінкай пад барадой і ўбачыўшы такі сход навакола мяне і чуючы, што я гавару да Паляшукоў іхным дыялектам, зараз зажадаў ад мяне дакумантаў. Яму хіба здавалася, што прыехаў нейкі сельроб украінскі і ладзіць мітынг. Прачытаўшы мой дакумант, зараз выцягнуўся, як струна перадамною, засалютаваў і прапанаў свае ўслугі. Але ўслугі ягоныя ня былі патрэбныя, бо яны маглі мне толькі пашкодзіць.

У гэты час „сход" мой разбрыўся хто куды, баючыся, што мяне арыштуюць, а таксама і іх, толькі мае „кумпаны," фурманшчыкі і яшчэ некалькі адважнейшых Паляшукоў засталіся пабачыць, што будзе. На разьвітаньне пачаставаў я ўсіх гэтых Паляшукоў махоркай і пайшлі мы да „калейкі."

„Калейка" яшчэ большае ўражаньне зрабіла на мяне, бо звычайна вагоны цягне паравоз, а тут маленькі жывы канёк выконываў функцыю паравоза. Мае „кумпаны" пазнаёмілі мяне з кандуктарам, які на ваганэтку ладаваў пустыя жбаны ад малака з маёнтку Альбіна у малачарню. „Кандуктар" ахвотна згадзіўся весьці мяне у сваім „цягніку," жадаючы толькі адзін пачак махоркі за гэта.

Апрача мяне і „кандуктара", былі яшчэ тры „пасажыры": дзьве маладыя Паляшучкі, якія прыносілі ягады ў мястэчка і адзін мужчына — гэта быў Немец — вясковы гандляр, які ад вайны астаўся на Палесьсі, дзе ажаніўся з вясковай дзяўчынай.

— Узлазьце, — сказаў „кандуктатар" і сам выгадна сеўшы на спэцыяльна зробленай для сябе напярэдзе лавачцы, дзе і мне даў месца (гэта хіба была першая кляса) — сьвіснуў, але не ў сьвісток, але бізуном па кані. „Цягнік" наш рухнуў і мы незадоўга скрыліся ў густых зарасьлях балотаў. На нашым шляху вызначаных станцыяў ня было, а застанаўляўся ён, калі даганяў якогась Паляшука ідучага па лініі чыгункі і забіраў у цягнік. Праехаўшы паўдарогі гэтулькі набралася пасажыраў, што некаторыя толькі аднэй нагой стаялі на пляцформе, а як было дзе пахіла, то ўсе стаячыя пасажыры перакуліваліся у мокры прыровак.

Горш было, калі мы спаткалі праўдзівы лясны цягнічок, які па гэтай лініі ідзе два разы ў тыдзень (возіць дрэва на станцыю). Спаткаўшыся абодва „цягнікі" затрымаліся і нашаму трэба было ўступіць дарогу. Аднак ня трудна было гэта зрабіць, бо людзі едучыя зараз узялі „вагоны", аднесьлі іх на бок, а пасьля ўзноў паставілі *на рэйкі і паехалі* далей. Едзем вёрст з дзесяць і ня відаць ні засьценачка, ні вёскі, толькі па абодвух бакох разлягаюцца неабнятыя вокам абшары балот парослых дзікім кустарнікам і травой, людзей і быдла таксама ня відаць.

У „цягніку" гутару з „кандуктарам" і пасажырамі і нічога, апрача жальбаў і крыўдаў на долю, нельга было ад іх пачуць. Аб палітыцы з імі не гаварыў, бо яны ня знаюцца, ды гэтае пытаньне разьміналася-б з мэтай маей паездкі на Палесьсе; мяне перадусім цікавілі пытаньні навукова-дасьледчыя.

Адно толькі запытаў я іх, за каго яны сябе лічуць, да якой нацыянальнасьці пачуваюцца. На гэта ўсе адказалі, што яны Паляшукі, „рускай веры." Калі запытаўся я іх, ці чулі яны што-небудзь аб Беларусах або Украінцах, то адказаў „кандуктар," што да гэтых народнасьцяў яны баяцца прызнавацца, бо за гэта пасадзяць у вастрог. Пасьля аказалася, што там украінскія сельробы сваей „работай" шмат каго ў вастрог загналі. На пытаньне, якія газэты яны чытаюць, адказалі: „ніякіх ня чытаемо, бо нэграматныя." Шмат аб чым я з імі гутарыў, але трэба было закончыць, бо даяжджалі да апошняй „станцыі." Адсюль прышлося мне йсьці пехатой да вызначанага пункту нейкіх з 8 кілёмэтраў

Дарога была благая, мокрая і няпростая. Хутка знашоўся мне спапутнік, 20-цілетні Паляшук, з якім я йшоў, гутарачы аб многіх цікавых для мяне рэчах. Гэты Паляшук мусіў штодзень 18 кілём. хадзіць на „пастарунак мэльдавацца" затое, што ў свой час „нюхаўся" з сэльробамі.

Каля 2-й гадзіны прышлі мы у в. С.: тут мой пункт Я пайшоў да выбарнага, каб той даў мне кватэру, дзе можна было-б затрымацца.

**Фр. Цяцерскі.**



# Jadvihin Š.

*(24.II.1922 — 24.II.1932).*

Jadvihin Š. — heta pseŭdanim (prybranaje proźvišča) biełaruskaha paeta, praŭdzivaje proźvišča jakoha jość Anton Lavicki.

Jadvihin Š. byŭ z pachodžańnia šlachcic i radziŭsia ŭ 1869 hodzie ŭ folvarku Krapiłaŭcy kala Radaškavič, Vialejskaha pav. Vučyŭsia jon u himnazii ŭ Miensku, a paśla pastupiŭ u ŭniversytet u Maskvie, na medyčny fakultet, jakoha adnak nia zmoh skončyć, bo ŭ časie studenskich zabureńniaŭ byŭ aryštavany i siadzieŭ u Butyrskim i Pietrapaŭłaŭskim vastrohach.

Da biełaruskaha ruchu prystupiŭ Lavicki ŭ Maskvie, budučy jašče studentam. Žyŭ jon źmienna, pieravažna adnak u Vilni, Miensku i Radaškavičach.

Jadvihin Š., nia hledziačy na svajo słaboje zdaroŭje, apračа pracy na nivie literaturnaj, čynna pracavaŭ na nivie biełaruskaha adradžeńnia, arhanizujučy biełaruskija kulturnyja tavarystvy, vydajučy na ŭłasny košt biełaruskija knižki, vystupajučy na zborkach, viečach i źjezdach.

Ŭ 1917 h. vybrany jon byŭ, jak siabra, ŭ skład Rady Biełaruskaj Narodnaj Respubliki.

Vynik literaturnaje pracy Jadvihina Š. heta:

1. „Дзед Завала“ — vieršavanaja lehienda, vydana ŭ Vilni ŭ 1910 h.
2. „Бярозка“ — zbornik raskazaŭ, vydany ŭ Vilni ŭ 1912 h.
3. „Васількі“ — taksama zbornik raskazaŭ, vydany ŭ Vilni ŭ 1914 h. i
4. „Ŭspaminy“ — z studenskaha žyćcia ŭ Butyrskim i Pietrapaŭłaŭskim vastrohach.

Apračа hetaha Jadvihin Š. pierałažyŭ na biełaruskuju movu „Сыгнал“ Haršyna, redahavaŭ miesiačniki „Саху“, „Лучынку“ ŭ Miensku, supracoŭničaŭ u biełaruskich hazetach: „Нашай Ніве“, Нашай Долі“, „Biełarusie“, „Вольнай Беларусі“ i inš.

Jak piśmieńnik, Jadvihin Š. naleža da pierachodnaha času. Raskazy jaho z fantazii, abo z narodnaj tvorčaści cikavyja i z humaram z žyćcia našaha sialanstva.

Pamior Jadvihin Š. ŭ Vilni 24.II.1922 h. i pachavany na mohiłkach „Rossa“. Pamiać adnak ab im u biełaruskim narodzie nie zahinuła i nie zahinie nikoli. Moładź i starejšaje hramadzianstva kožny hod, asabliva ŭ dzień Usich Śviatych, źbirajecca kala jahonaj mahiłki, molicca i hučna piaje biełaruskija pieśni.

*J. N.*

# Літэратурны аддзел.

* * *

О, Беларусь! Я — знаю
Увесь боль — тугу тваю
Табе аднэй сьпяваю
І для цябе жыву.

Ня трэба мне багацьця
І шчасьця не хачу.
Мой брат у курнай хаце
Мякіну есьць адну.

А столькі ёсьць багатых,
І подлых і сытых.
Таргуюць доляй брата
Гарэй дурманюць іх.

Я іх не праклінаю
(Што значыць ім праклён)
О Родная! — чакаю
Тваіх вясёлых дзён.

Зьнясу усё з ахвотай,
Увесь Твой боль з тугой
І не прашу нагроды —
Цярплю не адзін — з табой.

**М. Машара.**

## ПАСЛУХАЙЦЕ...

Паслухайце песьні каханьня,
Хто шчыра ўсім сэрцам кахаў,
Хто хвілі салодкай спатканьня,
Як шчасьця, як долі чакаў.
Ўсе тыя мяне зразумеюць,
Усе песьню пачуюць маю,
Што шчыра ўсім сэрцам кахаюць:
Для іх я цяпер запяю.
Я грудзі свае ім раскрыю,
Ім сэрца сваё пакажу,
Як сэрцам збалелым я ныю,
Як плачу — усё раскажу.
Яна мяне шчыра кахала
І гэтым каханьнем я жыў,
. . . . . . . . . . . .
Шчасьлівы тагды я з ёй быў.
Зайздросьцілі злыя мне людзі!
Укралі галубку маю
І гэтым разьбілі мне грудзі,
Цяпер я ад жалю пяю.
Я сэрца аддаў ей навекі,
Ўсе думы снуюць пра яе,
Хоць часам закрыю павекі,
Той вобраз заснуць не дае.
Яе заўсягды ўспамінаю
І ранена сэрца баліць,
Ад раны я гэтай сканаю,
Хоць трэба—ня хочацца жыць.

**Леанід з-пад Вішнева.**

## СЬМЕРЦЬ ІВАНКА.

Кожны бачыў, як сьвітае і як сонца ўсходзіць,
Як зноў хмара градавая небасхіл абводзіць;
Ды ня кожны, браце, бачыў зарава пажару,—
Як кроў людзкая лунае навокал абшару.

* * *

Пачалась вайна народаў — справа сьветавая;
Адгуляў спакой агульны, дух вайны гуляе.
Ускалыхнулася Эўропа, як варонаў стая,
Вораг ворага адважна нішчыць і змагае.
Быццам чорнай хмарай, Немцы валяць, наступаюць,
Землі сэрбскія пустошаць, Сэрбаў забіваюць...
Пэўным быў у сваім шчасьці горды люд германскі.
Заступіўся-ж цар Мікола за народ славянскі;
Сталі ворагі, як хмары, перад бурай тою,
Стаў імгліцца дождж крывавы над сырой зямлёю,
Ружжа, шаблі, кулямёты горача працуюць,
Кроўю цёплаю сваею сьмерці сталь гартуюць.
У чорным дыме пахне моцна сьвежа, кроў і порах.
Самалёты кружыняюць ў месьці том, дзе вораг,
Сьмерць касьбу распачынае, густа ўе пакосы,
Там пражэктары, як сонца, распускаць косы,
Там, як з хмары чорнай градам сыпе кулі вораг
Між адважных спраўцаў сьмерці рве гранаты порах.
Як на зьвера лясавога, брат ідзе на брата,
Там Садома і Гамора. Там дух жудны ката.
Поруч з духам зьлітаваньня дзіўна нейк' пануе,
Там адзін усьцяж мардуе, а другі ратуе.

(д. б.) **Язэп Вількоўскі.**

---

# Ab kulturnych formach žyćcia.

## Kultura praŭdzivaja i niepraŭdzivaja.

Siahońnia taki čas, kali kožny havora ab kultury, kožny choča pakazać siabie kulturnym, ale daloka nia kožny jasna sabie ŭjaŭlaje, *čym heta kultura sapraŭdy jość?* A ad hetaha šmat zaleža, bo „niama dymu biez ahnia“. I my, kali chočam tut havaryć ab kulturnych f o r m a c h žyćcia, musim viedać, što nia moža być movy ab formach tam, dzie niama źmiestu. Kulturnaja forma moža vyciakać tolki z kulturnaha źmiestu, z samaj kultury.

Sens abo źmiest kultury staniecca badaj vyraźniejšym i bolš zrazumiełym, kali ŭjavim sabie nasampierš, što kulturaj nia jość.

Voś-ža nasampierš kultu̇raj nia jość usio toje, što narod naš zavieć adnym słovam „šlachtunstva". Vyraziłasia ŭžo heta ŭ staroj biełaruskaj prykazcy, jakaja kaža, što *„Boh stvaryŭ try rečy nie da rečy: voš, błychu i šlachtu"* (darujcie, pavažanyja čytačy, ale „z pieśni — i z prykazki! — słoŭ nia vykidajuć").

Z druhoha boku, nielha nazvać kulturnaściu roznyja pieražytki miaščanstva, drobnaha i bujnaha, ale zaŭsiody pazbaŭlenyja jakoha-niebudź žyćciovaha sensu dla sučasnaści.

Kulturaj nia jość ani materjalnaje bahaćcie, (hrošy i ŭsio, što za hrošy možna kupić), ani chłystoŭstva, ani pustasłoŭje, ani ŭrodžanaja cialesnaja strojnaść, pryhožaść, ani štučnaja „napušanaść" i fanaberyja ŭ abchodžańni z bližnim, ani vyrakańnie i ŭciakańnie ad słabych, biednych i apuščanych. Naadvarot, sapraŭdy kulturnym čałaviekam jość toj, chto ŭsiudy i zaŭsiody patrapić zachavacca pavodle svajho stanu dy chto pry ŭsim hetym uścieražecca procinaturalnaj štučnaści i niažyćciovaj kałanataści. Adnamu heta ŭdajecca lahčej, druhomu ciažej. Kožny adnak pavinien da taho kiravacca, kab hetyja vymohi zdavolić.

Błahi zvyčaj zavioŭsia ŭ nas — dy nia tolki ŭ nas — mieryć kulturu čałavieka pavodle jahonaj novaj i darahoj vopratki, jadvabnaj sukienki, łakieravanych čaravičkaŭ, śmiešnaprylizanaj „fryzury" (vałasoŭ) i het. padobnych niedarečnaściaŭ. Usio heta jość vypładam ślapoha naśladavańnia roznych miestavych błyskotak, na jakija z ahaleŭšych sialan-rabotnikaŭ ździrajecca — dasłoŭna! — apošniaja skura i jakija, kab być „kulturnym", čałavieku nia tolki nie nieabchodny, ale i prosta — niaŭmiesny, bo asnaŭnym praviłam zachavańnia kulturnych formaŭ jość *žyćcio pavodle stanu*.

Vopratka pavodle vieku jość dalšaj aznakaj vartaści čałavieka. Śmiešna vyhladaje 16-cihadovy padlotak, jaki „dziare nos" na „pavahu" darosłaha čałavieka, ale śmiašniej jašče vyhladaje „mikałajeŭskaja małaletka", jakaja ŭ vopratcy i ŭ abchodžańni naśladuje tych-ža padlotkaŭ. Usiakamu — svajo. I sastarecca treba ŭmieć!

Chto naradziŭsia ŭ bahaciejšaj siam'i i da taho — z bolšymi zdolnaściami cialesnymi (pryhožy) i duchovymi (zdolnaść, pamiatlivy), toj musić pamiatać, što ŭsio heta jamu było danym biaz nijakaj z jaho starany zasłuhi dy što chto bolš *darma* adtrymaŭ, ad taho bolš u žyćci i vymahajecca. Da taho-ž štodziennaje žyćcio pakazuje, što daloka nie zaŭsiody pryrodžanyja zdolnaści i pryhožaść pasłužyli čałavieku na dabro: časta zvodziać jany i na apošniaje biezdarožža. A znača, urodžanych zdolnaściaŭ treba pilnavać, treba ich kiravać.

Specyjalna biełaruskim siahońnia procikulturalnym niedastatkam jość uciakańnie i saromlivaść nia raz svaje prynaležnaści da biełaruskaha narodu. Heta pryznavańnie siahońnia

niepaplatna: naadvarot, bielarus — sielanin, rabotnik, intelihient — siahońnia amal na kožnym kroku prašledujecca. Usio heta praŭda, ale da apraŭdańnia hetaha adnak za mała. Kožny narod u pačatkach svajho adradžeńnia biedny i dabrabyt jahony prychodzić tolki z achviarnaściaj i pracaj. Chto da hetaha nia-zdolny, toj pakazuje sapraŭdnyja niedastatki svaje kulturnaści, toj jość vyradkam, jak vyradkam jość toj, chto vyrakajecca svaich baćkoŭ dzieła taho tolki, što jany staryja, ciomnyja, biednyja...

Hetych niekalki razvažańniaŭ ab praŭdzivaj i falšyvaj kulturnaści chaj buduć asnoviedździu dalšych hutarak ab ułaścivym zachavańni pry paasobnych mamentach ludzkoha žyćcia.

*V. S.*

---

# Jak być zdarowym.

Zdaroŭje heta najbolšaje bahaćcie całavieka na ziamli. Tolki zdarovy całaviek moža žyć paŭnatoj žyćcia, ciešycca z jaho, być pamocnym svajmu hramadzianstvu, svajej baćkaŭščynie i raźvivać svaje duchovyja vartaści. Choć časta i ŭ słabym ciele byvaje mocny duch, ale pieravažna mocnaje tolki cieła maje i mocny duch.

Kab cieła ludzkoje dy było zdarovym, mocnym, jano patrabuje ruchu. Miestavaja moładź hetu patrebu zdavolvaje roznym sportam (hulniami) i ŭ hetym časta pierabiraje mieru.

Dla sialanskaj moładzi sport mienš patrebny, bo jana ŭdoval moža mieć pracy fizyčnaj i ruchu kala haspadarki, na poli i ŭ lesie. Joj bolš patrebny tolki varunki, jakija spryjali-b raźvićciu cieła i ŭścierahli-b ad mnohich chvarob, bo lahčej uścierahčysia ad chvaroby, čym zachvareŭšy — vylačycca. Pamiatać i staracca ab hetym pavinny pieradusim my—moładź, kab uścierahčy zdaroŭje i siły svaje na doŭhuju i trudnuju darohu žyćcia.

—U pieršuju čarhu razhledźma, jakim majem być ludzkoje:

*Pamieškańnie* — chata, u jakoj pražyvajemo bolšuju čašć svajho žyćcia. Pamieškańnie pavinna być davoli abšyrnaje, bo na kožnuju asobu patrebna ad 15 da 20 m. kub. prastoru, i składacca z chaty i addzielnaj kuchni. Dobra, kali chata maje dźvie śviatlicy. Pry hetym žyć treba ŭ kožnaj śviatlicy, a nia to što ŭ adnej usie kieškajucca, a druhaja staić dla haściej ci čužnika.

*Pavietra* ŭ ciesnym pamieškańni, dzie jość choć i nia tak mnoha ludziej, amal zaŭsiody byvaje tak sapsuta, što jak kažuć, tapor visieŭ-by.

Ŭ hetakim pamieškańni ludzi blednyja, nieachvotnyja da pracy, časta chvarejuć na suchoty, zapaleńnie horla, katar i druhija chvaroby. Dzieci taksama vyhladajuć jak z fajansu, skura dy. kości, škrofuličnyja, z anhiełkaj i mocna kašlajuć. Začym heta tak jość? Bo niama čym dychać, niedachop śviežaha pavietra. Śviečka nakrytaja šklankaj hašnie, bo niama dastupu pavietra: toje samaje robicca z ludźmi, jakija žyvuć u ciesnaj i ščylnaj chacie.

Dziela hetaha zrańnia i ŭviečary prynamsia treba pravietryvać svajo pamieškańnie, adčyniajučy fortačku, vakno abo dźviery. Nia možna tut, aščadžajučy apał, rujnavać svajo zdaroŭje. Choład mienš škodzie, a pryvykšamu—susim nia tak strašny, jak niačystaje pavietra. Pry hetym praciahi (skraźniaki), jakich tak mocna bajacca ŭ nas, — nia škodnyja susim, najvyžej, treba tolki dziaciei apranuć i pasadzić dzieś na staranu, kab nie prastudzilisia.

Žyvioły, jak napr. aviec, cialat, parasiat, kurej i sabak ani ŭ chacie, ani ŭ kuchni trymać nia možna. Jany, jak i ludzi, adbirajuć z pavietra patrebny nam tlon, a pry hetym z ich adpadkaŭ paŭstajuć zabojčyja dla ludziej gazy, asabliva amonjak ($NH_3$) i $H_2S$.

*Śviatło.* Chaty našy pavinny vychadzić voknami na poŭdzień, bo śviatło da žyćcia jość nam nieabchodnaje; pry hetym vokny treba rabić jak najbolšyja pavinna być 4—5 vakon najmienš. Pry hetym, kali vokny małyja, nia možna na ich trymać roznyja vazony, ziołki — choć jany čałavieku i patrebnyja. Taksama nia muhuć być na voknach sastaŭleny harški, a na małych—i zanavieski (firanki). Šyby pavinny być čysta vymytyja. Bo što-ž z taho vakna, kali praz jaho na chatu nia mohuć prabicca žyćciadajnyja pramieńni sonca, jakija zabivajuć škodnyja dla čałavieka bakteryi, np. suchotnyja i dobra dziejuć na ahulnuju pieramienu materyi ŭ nas. Kožny viedaje, što viasnoj ci ŭletku, čujecca čałaviek lepš, čymsia ŭvosieni. Dziaciam, asabliva chvaravitym, z adznakami anhiełki — kryvyja nohi, — taksama sonca jość nieabchodnym.

Dyk nia skupima dla siabie sonca.

(d. b.)

*Stud. medycyny* **J. M.**



# Ab elektryčnaści.

## Elektryčny mator, lampa, ahravańnie, medycyna.

Žyviom u časie panavańnia mašyny i mechaničnaj cyvilizacyi. Da hetaha ŭ vialikaj miery pryčyniajecca zastasavańnie elektryčnaha matoru (mašyny, jakaja pieratvaraje elektryčny tok na pracu mechaničnuju) da pahaniańnia mnohich mašyn.

Elektryčny mator u zasadzie nia roźnicca ad dynamomašyny, u katoraj, jak my ŭžo ŭspomnili minułym razam, ad abarotaŭ vosi paŭstaje ruch mahnesaŭ kala špulak z nakručanym izalavanym drotam, ad čaho ŭ hetym-ža drocie vytvarajecca elektryčny tok. Naadvarot, — kali praz drot špulek dynamomašyny puścim elektryčny tok, dyk voś jejnaja pačnie krucicca i stanovicca matoram elektryčnym, praca katoraha moža być vykarystana na pahaniańnie jakoje-niebudź mašyny.

Dziela lohkaści pierasyłańnia elektryčnaj enerhii na vialikija adležnaści, zastasavańnie elektryčnaha matoru ŭ technicy vielmi pašyryłasia. I tak, vialikija dynamomašyny abaračyvanyja vodnymi turbinami, vytvarajuć elektryčny tok, jaki moža być razsyłany pry pomačy dratoŭ da fabryk, haradoŭ i viosak.

— I da viosak? — zapytajem peŭna. Tak, asabliva ŭ vioskach niamieckich, českich, švajcarskich užo časta mator elektryčny zastupaje pracu kania abo čałavieka, naprykład: pry małaćbie, rezańni siečki, viejańni nasieńnia; radziej — pry arbie, baranavańni, žnivie, a naʻt—pry takich rabotach, jak dajeńnie karoŭ (elektryčnaja pompa), abo čyščeńnie kania (elektryčny adpylač).

Dalejšym važnym zastasavańniem elektryčnaści jość aśviatlańnie i ahravańnie pry jejnaj pomačy. Apošnim časam u bolšych haradoch da aśviatlańnia vulic i pamieškańniaŭ amal što vykļučna karystajucca elektryčnym tokam, katory dasyłajecca z *elektroŭni*)* ŭ paasobnyja pamieškańni dvuma dratami. Miž hetych-ža dvuch dratoŭ ułučajucca elektryčnyja lampy (praz zastasavańnie dratoŭ pamacničych), katoryja i świeciać.

Lampa elektryčnaja, vydumanaja ŭ 1879 hodzie vialikim amerykanskim vučonym Edissonam, pradstaŭlaje saboj škla-nuju bańku ŭ formie vialikaj ihruški, z jakoj vypampavana pavietra, i na cianiejšym kancy katoraj znachodzicca metalovaja apraŭka. U siaredzinie lampy mieścicca cieńki drocik z specyjalnaha metalu (volfram abo osm); kancy drocika, pry pasiarednictvie drocikaŭ pamacničych, pierachodziačych praz škło lampy, dałučajucca z vonkavaj starany jaje (apraŭka) da dratoŭ, davodziačych elektryčny tok, katory toj cieńki drocik

*) hetak nazyvajecca „fabryka", dzie vyrablajecca elektryčny tok.

razahravaje da biełaha śviatła. Pavietra vypampavana z lampy na toje, kab drocik nie pierahareŭ, a tolki śviaciŭ. Zhasić takuju lampu vielmi łohka, bo treba ŭsiaho tolki razłučyć drot, jaki davodzić elektryčny tok. U praktycy zapaleńnie i hašeńnie lampy robicca pakručvańniem h. zv. vyłučnika.

Takuju, jak apisanaja, tolki małuju lampačku bačym u elektryčnaj latarcy. Zapalajecca jana tokam z batarejki, dzie tvorycca jon ad dziejańnia soli (salmijak — $NH_4CL$) na cynk i vuhal.

Ułučajučy miž dratoŭ, davodziačych elektryčny tok, drot hetak dabrany, kab nie razhravaŭsia až da śviatła, zamienim enerhiju elektryčnuju ŭ całaści na *enerhiju ciapła*: tady elektryčnaść hreje. Siahońnia isnujuć užo elektryčnyja piečy abo kuchonnyja pasudziny, nahravanyja elektryčnym tokam: čajniki, rondli, sahany, patelni, žalazki da prasavańnia i inš.

Pry kancy varta ŭspomnić ab cikavych zastasavańniach ciapła elektryčnaha da štučnaha i skoraha „vysiedžyvańnia" kurčaniat i inš. ptušak haspadarskich (100 da 3000 jajok zaraz). Da lačeńnia niekatorych chvarobaŭ užyvajecca naśviatleńnie asablivym rodam elektryčnaha śviatła (śviatło ultrafioletnaje). Iznoŭ-ža pry pomačy inšaha rodu śviatła (pramieńni Röntgena) možna praśviatlić naskroś cieła čałavieka i hetym sposabam bačyć chvoryja čaści cieła ŭnutry, što vielmi ablahčaje paznańnie chvaroby i lačeńnie jaje. Dziela tannaści elektryčnaj enerhii, asabliva, kali jana pieratvarajecca z darmovaj enerhii spadku vady (rečki), zastasavańnie jaje štoraz pašyrajecca.

Žyćcio, jak bačym, idzie vialikimi krokami napierad. Dyk moža chutka pryjdzie toj čas, kali i ŭ našych vioskach, pobač z bleskam elektryčnaj lampački, razśvitaje zdabytaje lepšaje zaŭtra budučyni.

*Student fizyki B. M.*



СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:
Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч

**Выдавец Янка Багдановіч. Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч**

# Хроніка.

**З беларускага жыцьця.**

У Судзе. Справа канфіскаты „Шляху Моладзі" № 8 за 1931 год будзе разглядацца 27 г. м. у Віленскім Гарадзкім Судзе.

У 10-ыя ўгодкі сьмерці Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага). Вучні і вучыцялі Віленскае Беларускае Гімназіі 23 г. м., з прычыны 10-ых угодкаў сьмерці паэта, адведалі ягоную магілу на віленскіх могілках „Росса" і зложылі вянок. Над магілай паэта сказаў прамову аб жыцьці і творчасьці ягонай Кс. Ад. Станкевіч, а гімназіяльная вучнёўская аркестра адыграла жалобны марш.

Беларуская моладзь на сцэне. — 7-га г. м. вучні 7 і 8 кл. Віленскае Беларускае Гімназіі ставілі ў гімназіяльнай залі п'есу „На вёсцы" Э. Ожэшковай.

20-га г. м. Драматычны Гурток вучняў Дзяржаўнай Вучыцельскай Сэмінарыі ім. Фр. Багушэвіча ставіў у залі Віл. Бел. Гім. камэдыю К. Вясёлага „Ня розумам сьцяміў, а сэрцам".

— 12.III с. г. вучні 5-ае кл. Віл. Бел. Гімназіі ладзяць у гімназіяльнай залі (Вострабрамская 9) спэктакль-вечарыну і маюць ставіць абразок „Цудоўная ноч" — Салаўёва. Пасьля прадстаўленьня танцы. Пачатак а 8-ай гадзіне ўвечары.

Новы Гурток БІГіК апошнім часам заснаваўся ў в. Белая, Бельскага пав., — жадаемо яму пасьпеху ў працы.

Навагрудзкая Беларуская Гімназія, як падае „Беларуская Крыніца" № 8, у небясьпецы, бо пэўныя польскія кругі стараюцца забраць у „арэнду", пад польскую школу, на вельмі няясных варунках, саматугам выбудаваны беларускім грамадзянствам і вучнямі гімназіяльны будынак, што бязумоўна ў сучасных нашых абставінах пагражае існаваньню гімназіі.

Канцэрт. 15 г. м. у залі меставага тэатру ў Навагрудку адбыўся канцэрт хору Навагрудзкае Беларускае Гімназіі пад кіраўніцтвам гр. Валынчыка. Канцэрт прайшоў удачна, ня гледзячы на тое, што хор складаецца пераважна з маладых вучнёўскіх сіл.

Лекцыі ў Віленскім Аддзеле БІГіК. Апошнім часам, што нядзелі ў памешканьні Цэнтралі Бел. Інстытуту Г. і К. (Людвісарская 1—19) адбываюцца лекцыі аб гісторыі Беларусі, аб беларускай культуры, літэратуры і аб беларускім адраджэнскім руху. Вось-жа з лекцыяў гэтых найбольш можа скарыстаць беларуская моладзь, якая вучыцца ў польскіх школах, і якая аб беларускай гісторыі, культуры, літэратуры і адраджэнскім руху ня мае, нават вельмі часта, найменшага паняцьця.

Наступная лекцыя адбудзецца ў нядзелю 28-га лютага а 4-ай гадз. па паўдні. Уваход на лекцыю вольны і бясплатны.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

### З жыцьця ўкраінскае моладзі.

20-цілецьце Украінскага „Пласту". Сёлета прыпадаюць 20-ыя ўгодкі заснаваньня Украінскага „Пласту" (украінская арганізацыя моладзі — скаўты). Сьвяткаваньне гэтага юбілею адбудзецца ў Празе (Чэхаславаччына) 13 сакавіка с. г. У краю польскія ўлады ў часе пацыфікацыі ў Галіччыне „Пласт" разьвязалі, закідуючы яму антыдзяржаўную работу.

### З Польшчы.

Праект рэформы школаў. Урад падаў на разгляд у Сойм праект рэформы школаў, які паводле газэтных вестак, яшчэ больш утрудняе магчымасьці здабыцьця асьветы для вясковае моладзі агулам, а для нашае беларускае — перадусім, бо яна найбяднейшая.

### З заграніцы.

Міжнародны зьезд скаўтаў. Згодна з пастановай апошняе скаўтоўскай канфэрэнцыі ў Бадэн, наступны міжнародны зьезд скаўтаў адбудзецца ў 1933 годзе ў Гедэле каля Будапэшту ў Мадзяршчыне.

## Da nas pišuć.

TREBA TRYMACCA SVAJHO!

**Budsłaŭ**, Vialejskahaha pav. Tutejšy Hurtok Bieł. Instytutu Hasp. i Kultury złądziŭ dnia 31 studzienia papularnuju lekcyju na temu „Leki na ździeki", jakuju pračytaŭ inž. Ad. Klimovič. Viečaram tahosamaha dnia adbyłosia amatarskaje teatralnaje biełaruskaje pradstaŭleńnie. Pastaŭleny byli p'jesy: „U kavalovaj chacie" — L. Rodzieviča i „Pieršyja łastaŭki" — J. Ruščanca. Sabranym asabliva padabaŭsia hety apošni abrazok prabudžeńnia maładoj Biełarusi. Artysty ŭłažyli šmat pracy na pryhatavańni pradstaŭleńnia i heta im treba pryznać. Krychu mienš ščaślivaj była samaja ihra; słabiej vyšła i sprava padboru vopratak artystaŭ(ak) i dekoracyi sceny jak biełaruskaj chaty.

Na budučyniu nielha zabyvacca, što i najbolš „sučasnaja" biełaruskaja sialanskaja chata nia znaje ani „makataŭ", ani tym bolš roznych „krep-dešinaŭ", „opalaŭ", „ažuraŭ" i h. p. tandety... Hetu nierazumnuju siahońnia modu zaviali siudy žonki i dzieŭki tutejšych vajskovych, za katorymi paciahnułasia i rešta nieśviadomych dziaŭčat: nie dajeść, nie daśpić, ale jadvabnuju sukienku kupić, kab tolki vyhladać „panienkaj"... A tymčasam vychodzić heta i prad ludziami śmiešna i prad Boham — hrešna.

Najmudrejšym praviłam jość trymacca svajho i nie vynasicca nad stan.

*Susied M.*